Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# АБВЕСЬНІК

Народнага Камісарыяту Асьветы Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

ВЫДАНЬНЕ АФІЦЫЯЛЬНАЕ.

№ 4. | ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ
Менск, пляц Волі № 23/2. ТЭЛ. 2—21. | 1 сакавіка 1925 г.

## Пастановы Савету Народных Камісараў БССР.

СНКБ на пасяджэньні сваім 30/31 студзеня 1925 г. разгледзіў між іншымі вось якія пытаньні, прыняўшы па іх такія пастановы:

*32 (852) Праект Наказу па ужываньню пастановы ЦВК і СНК СССР ад 8 жніўня 1924 г. аб ліквідацыі няпісьменнасьці дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў пераменнага складу тэрыторыяльных часьцін.*

Прыняць праект [1]) з некаторымі зьменамі.

*33 (855) Аб выдачы сродкаў Дасьледча-паказальнай школе пры Менскім Жыдоўскім Пэдагагічным Тэхнікуме на дадатковае абсталяваньне яе навуковымі прыладамі і дапамогамі.*

Выдаць з запаснага фонду СНКБ Дасьледча-паказальнай школе пры Менскім Жыдоўскім Пэдагагічным Тэхнікуме 3.000 рублёў на здабытак навуковых прыладаў і дапамогаў.

*34 (856) Каштарыс прыбыткаў і выдаткаў Горацкага Сел.-Гасп. Інстытуту.*

I. Па прыбытках:

а) Ґуртавы каштарыс прыбыткаў па асноўнай і другой лесасеках Горацкага Сел.-Гасп. Інстытуту прыняць у суме 584.645 рул. 09 к., прычым лічыць 50000 руб. з гэтае сумы ўмоўнымі.

б) Даручыць НКФБ устанавіць супольна з НКЗБ заробак лясной адміністрацыі і варце, прычым, каб зраўняць заробак паказанае катэгорыі працаўнікоў з ляснымі працаўнікамі на лясьніцтвах НКЗБ, прыняць пад увагу той дадатак, які атрымліваюць усе лясныя працаўнікі ад 10% адлічак ад лясных прыбыткаў.

II. Па выдатках:

Зацьвердзіць каштарыс у лічбах, якія запрапанаваў НКФБ з такімі зьменамі:

а) даручыць Дзяржаўнай Плянавай Камісіі супольна з НКФБ ды інжанэрам рэспублікі зрабіць больш дакладнай і ўнесьць на вырашэньне СНКБ канчальную суму выдаткаў на рамонт будынкаў і будоўляў Горацкага Сел.-Гасп. Інстытуту, выходзячы пры гэтым з запраўднае тэрміновасьці і беспасярэднае патрэбы ў тым ці іншым рамонце;

б) заробак прафэсаром, выкладчыкам і асыстэнтам Інстытуту захаваць у разьмеры які, быў для іх прыняты ў пачатку бюджэтнага году, пакуль ня вырашыцца гэтае пытаньне ў агульна-рэспубліканскім маштабе ў адносінах да ўсіх ВУЗ'аў БССР; [1])

в) вырашэньне пытаньня аб заробку тэхнічнаму складу адкласьці да канчальнага высьвятленьня пытаньня аб каштарысе Горацкага Сел.-Гасп. Інстытуту;

г) выдаткі на навучаньне зацьвердзіць у суме 23.000 рублёў.

[1]) Самы наказ зьмешчаны ніжэй.

[1]) Пытаньне гэтае атрымала ў СНКБ такое вырашэньне: з 1 студзеня 1925 году прафэсарам і выкладчыкам Беларускага і Горацкага Сел.-Гасп. Інстытутаў, якія займаюць пасады па раскладу (штатныя), вызначаны штомесячны заробак: 1) прафэсаром—200 р.; 2) выкладчыкам—160 р., 3) асыстэнтам—130 р. Пры гэтым адначасна з прызначэньнем паказанага заробку спыняецца дармовае ці ільготнае карыстаньне кватэрамі, апалам і г. д.

Выдаткі па выплаце заробку аднесены на каштарыс лясных прыбыткаў абодвух Інстытутаў.

# Пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р.

## 1. Аб рэарганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры.

*(16 студзеня 1925 г.).*

Паводле пастановы Трэцяе Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР шостага скліку ад 4 лістапада 1924 году, аб рэарганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры, і на падставе § 3 і § 5 і ўвагаў да іх, а таксама § 4, § 19 і § 21 Палажэньня аб памяненым Інстытуце, зацьверджанага ЦВК і СНК БССР 25 ліпеня 1924 г. (Збор Законаў да загадаў Раб.-Сялянск. Ураду БССР 1924 г. ст. 161), Народны Камісарыят Асьветы **пастанаўляе:**

1. Зацьвердзіць далучаныя да гэтага праекты будовы і раскладу пасадаў па Інстытуту Беларускае Культуры (Інбелкульту).

2. Цяперашні (на 16 студзеня 1925 г.) склад членаў Інбелкульту **распусьціць.**

3. Прызначыць з 16 студзеня 1925 г. на трохгадовы тэрмін, паводле новае зацьверджанае будовы, *запраўднымі членамі Інстытуту Беларускае Культуры:* 1) **Ігнатоўскага** Усевалада, 2) **Чарвякова** Аляксандра, 3) **Адамовіча** Язэпа, 4) **Крыніцкага** Аляксандра, 5) **Жылуновіча** Зьмітру (Цішку Гартнага), 6) **Баліцкага** Антона, 7) **Прышчэпава** Зьмітру, 8) **Русецкага** Эдмунда, 9) **Каранеўскага** Язэпа, 10) **Усьпенскага** Аўгена, 11) **Мароза** Міхала, 12) **Кудзельку** Міхала, 13) **Мазура** Ігната, 14) **Некрашэвіча** Сьцяпана, 15) **Смоліча** Аркадзя, 16) **Луцэвіча** Івана (Янку Купалу), 17) **Міцкевіча** Канстантына (Якуба Коласа), 18) **Лёсіка** Язэпа, 19) **Цьвікевіча** Івана, 20) **Грамыку** Міхала, 21) **Гарэцкага** Максіма, 22) **Друшчыца** Васіля, 23) **Азбукіна** Міколу, 24) **Пятуховіча** Міхала, 25) **Плаўніка** Самуіла (Зьмітрука Бядулю), 26) **Мялешку** Міхала, 27) **Пятровіча** Івана, 28) **Эпімаха-Шыпілу** Браніслава 29) **Барсукова** Міхала, 30) **Зеліксона** Лазара, 31) **Сяржпутоўскага** Аляксандра, 32) Прафэсара **Растаргуева** Паўлу, 33) Прафэсара **Замоціна** Івана, 34) Праф. **Блюдуху** Міколу, 35) Праф. **Пічэту** Уладзіміра, 36) Праф. **Кірсанава** Аляксандра, 37) Праф. **Кіркора** Уладыслава, 38) **Дзякова** Васіля, 39) Праф. **Кацэнбогена** Саламона, 40) Праф. **Вальфсона** Сымона, 41) **Аршанскага** Бэрку, 42) **Вайнгера** Міхала, 43) **Сосіса** Ізраэля, 44) **Мышкоўскага** Льва, 45) **Левіна** Якава, 46) **Агурскага** Самуіла, 47) **Ашаровіча** Ільлю, 48) **Нодэля** Вульфа, 49) **Гольмштока** Хаіма, 50) **Рываса** Саламона, 51) **Гэльтмана** Сьцяпана, 52) **Дамброўскага** Часлава, 53) **Гельтман** Ядвігу 54) **Фрышмана** Віктара, 55) **Віткоўскага** Івана і 56) **Даведчыка** Уладыслава.

4. Падцьвердзіць загад НКАБ № 185, § 4 ад 22 лістапада 1924 г. аб прызначэньні Язэпа **Дылы** запраўдным членам Інбелкульту і Спаўняючым абавязкі Навуковага Сэкратара.

5. Даручыць Спаўняючаму абавязкі Навуковага Сэкратара Язэпу Дыле склікаць агульны сход прызначанага гэтай пастановай першага складу членаў Інбелкульту дзеля абраньня прэзыдыуму і членаў-супрацоўнікаў і пачатковага сфармаваньня сэкцыяў і камісіяў Інбелкульту.

Дадатак 1 да пастановы НКАБ № 1, ад 16 студзеня 1925 г.

### Будова Інстытуту Беларускае культуры (Інбелкульт).

**А. Прэзыдыум**

(складаецца з 6 членаў, з якіх 2 зьяўляюцца загадчыкамі жыдоўскага і польскага аддзелаў).

**Б. Сэкцыі:**

1) Мовазнаўчая
2) Літаратурная
3) Мастацкая
4) Гістарычна-археолёгічная

5) Прыродазнаўчая
6) Эканамічная
7) Пэдагагічная
8) Сельска-гаспадарчая
9) Мэдычная
10) Этнографічная.

**В. На правох сэкцый:**

1. Усебеларускае аб'яднаньне паэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.
2. Асоцыяцыя „Навуковая арганізацыя працы“ („НОТ“).

**Г. Пастаянныя камісіі:**

1. Дыялекталёгічная

(вывучэньне беларускае мовы, у часьцiннасьцi вывучэньне гаворак беларускае мовы дзеля устанаўленьня адзінства слоўнікавага матар'ялу).

2. Па складаньню слоўніка жывое беларускае мовы

(складаньне поўнага слоўніка беларускае мовы па запісах на мясцох і паводле беларускае народнае творчасьці і літаратурных твораў беларускіх пісьменьнікаў).

3. Правапісна-тэрміналёгічная

(далейшая апрацоўка беларускага правапісу, у тым ліку—праца над яго ўпрошчаньнем, апрацаваньне беларускае тэрміналёгіі).

4. Літаратурная

(крытычнае вывучэньне беларускае літаратуры; распрацоўка яе гісторыі; падрыхтоўка да акадэмічнага выданьня збораў твораў беларускіх пісьменьнікаў; апрацоўка і выданьне твораў беларускае народнае творчасьці).

5. Гістарычна-археолёгічная

(распрацоўка паасобных тэм па гісторыі Беларусі, гісторыі яе экаміні і культуры, а таксама рэвалюцыйнага руху беларускіх народных масаў; падрыхтоўка да выданьня гістарычных дакумантаў і актаў, а таксама апрацоўка і публікацыя вынікаў археолёгічнага дасьледваньня Беларусі).

6. Па вывучэньню рэвалюцыйнага руху на Беларусі

(вывучэньне рэвалюцыйнага руху на Беларусі у XIX-XX стагодзьзях, часьцiннасьцi вывучэньне рэвалюцыі 1905 г. (з яе адбіткам у Беларусі) і вялікае социяльнае рэвалюцыі 1917 г.).

7. Па ахове помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды

(выяўленьне помнікаў старасьветчыны, якія захаваліся да нашага часу і маюць вартасьць для гісторыі і мастацтва, рэдкіх і каштоўных у навукова-паказальных і практычных адносінах паасобных куткоў прыроды і прадстаўнікоў флёры і фаўны Беларусі; падлік, ахова і навуковае апісаньне помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды).

8. Па вывучэньню прыроды Беларусі і яе вытворчых сіл

(навуковае вувучэньне геолёгічнага мінулага, глебы, расьліннасьці, у тым ліку лясоў і фаўны Беларусі; вывучэньне прыродных багацьцяў краю і варункаў іх скарыстаньня).

9. Па вывучэньню народнае гаспадаркі Беларусі

(вывучэньне эканомікі ўсяе этнаграфічнае Беларусі, у часьцiннасьці БССР, асабліва сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і саматужных вырабаў).

10. Па выдаваньню твораў Леніна і марксіцкіх твораў

(падрыхтоўка і рэдагаваньне гэтых выданьняў).

11. Па вывучэньню савецкага будаўніцтва

(збор матар'ялаў па савецкаму будаўніцтву БССР і навуковая апрацоўка іх дзеля выяўленьня практыкі і дасьведчаньня савецкага будаўніцтва у Беларускай Савецкай Рэспубліцы).

12. Этнографічная

(вывучэньне матар'яльнае культуры па быцьцю працоўных масаў Беларусі, збор прадметаў матар'яльнае культуры, быцьця і твораў народнае творчасьці народаў, што жывуць у БССР).

13. Бібліаграфічная камісія

(складаньне вычэрпываючае бібліаграфіі на ўсіх галінах беларусазнаўства).

14. Цэнтральнае бюро краязнаўства (арганізацыя краязнаўчых таварыстваў і агульнае кіраваньне іх дзейнасьцю, арганізацыя ўсебеларускіх канфэрэнцый па краязнаўству; збор музэйных экспанатаў праз т-ва краязнаўства і разьмеркаваньне іх па Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю і яго аддзяленьнях: выдаваньне прац, праграм і анкет па краязнаўству).

### Д. Жыдоўскі аддзел

а) Сэкцыі:

1) Жыдоўскай мовы і літаратуры.
2) Жыдоўскай гісторыі.

б) Пастаянныя камісіі:

1. Па вывучэньню жыдоўскае мовы (навуковае дасьледваньне жыдоўскае мовы; праца над мовай падручнікаў).

2. Па вывучэньню жыдоўскае літаратуры (крытычнае вывучэньне жыдоўскае літаратуры, распрацоўка яе гісторыі; падрыхтоўка да выданьня збораў твораў жыдоўскіх пісьменьнікаў; апрацоўка і выданьне твораў жыдоўскае народнае творчасьці).

3. Па вывучэньню жыдоўскае гісторыі (вывучэньне гісторыі жыдоўскіх працоўных масаў на Беларусі і выданьне належачых да гэтага гістарычных матар'ялаў і прац).

### Е. Польскі аддзел.

а) Сэкцыі:

1) Польскае мовы і літаратуры.
2) Польскае гісторыі.

б) Пастаянныя камісіі:

1. Па вывучэньню польскае мовы і літаратуры (навуковае дасьледваньне польскае мовы і яе асаблівасьцях на Беларусі: упрошчаньне правапісу; крытычнае вывучэньне польскай літаратуры, асабліва творчасьці польскіх пісьменьнікаў, находзячых на Беларусі; распрацоўка яе гісторыі; дасьледваньне народнае творчасьці польскае люднасьці на Беларусі).

2. Па вывучэньню польскае гісторыі (навуковае дасьледваньне тых пэрыядаў польскае гісторыі, калі Беларусь-Літва складала супольнае дзяржаўнае цэлае; вывучэньне рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і яго уплываў на беларускія працоўныя масы; гістарычнае дасьледваньне эканомікі Польшчы і яе культуры, асабліва ў іх уплывах на Беларусь).

### Ж. Бібліатэка.

### З. Выдавецтва.

Дадатак 2 да Пастановы НКАБ № 1 ад 16 студзеня 1925.

### Расклад пасадаў па Інстытуту Беларускае Культуры (Інбелкульту).

| № | Назовы пасадаў, | Прызначана пасадаў. Штатных. | Пазаштатн. |
|---|---|---|---|
| | **А. Прэзыдыум.** | | |
| 1 | Старшыня Інбелкульту і яго прэзыдыуму . | 1 | — |
| 2 | Намесьнік Старшыні . | 1 | — |
| 3 | Членаў прэзыдыуму . | — | 3 |
| 4 | Навуковы сэкратар Інбелкульту . . . | 1 | — |
| | **Б. Сэкцыі.** | | |
| | 1) Мовазнаўчая, 2) Літаратурная, 3) Мастацкая, 4) Гістарычна-археолёгічная, 5) Прыродазнаўчая, 6) Эканамічная, 7) Пэдагагічная, 8) Сельска-гаспадарчая, 9) Мэдычная, 10) Этнографічная. | | |
| 5 | Старшыняў . . . | 10 | — |
| 6 | Сэкратароў . . . | 10 | — |
| | **В. На правох сэкцый.** | | |
| | Усебеларускае аб'еднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк". | | |
| 7 | Старшыня . . . | 1 | — |
| 8 | Сэкратар . . . | 1 | — |
| | **Асоцыяцыя „Навуковая Арганізацыя Працы" („НОТ").** | | |
| 9 | Старшыня. . . . | 1 | — |
| 10 | Сэкратар . . . | 1 | — |

| № | Назовы пасадаў. | Прызначана пасадаў. Штатных. | Пазаштатн. |
|---|---|---|---|
| | **Г. Пастаянныя Камісіі.** | | |
| | 1) Дыялектолёгічная. | | |
| 11 | Старшыня | 1 | — |
| 12 | Сэкратар | — | 1 |
| | 2) Па складаньню слоўніка жывое беларускае мовы. | | |
| 13 | Старшыня. | 1 | — |
| 14 | Навук. Сэкратар | — | 1 |
| | 3) Правапісна-тэрмінолёгічная. | | |
| 15 | Членаў | 3 | — |
| | 4) Літаратурная. | | |
| 16 | Старшыня | 1 | — |
| 17 | Навуковы Сэкратар | 1 | — |
| | 5. Гістарычна-археолёгічная. | | |
| 18 | Старшыня | 1 | — |
| 19 | Навуковы сакратар | 1 | — |
| | 6) Па вывучэньню рэвалюцыйнага руху на Беларусі. | | |
| 20 | Старшыня | — | 1 |
| 21 | Сэкратар | 1 | — |
| | 7) Па ахове помнікаў старасьвнтчыны, мастацтва і прыроды. | | |
| 22 | Старшыня | — | 1 |
| 23 | Навуковы сакратар | 1 | — |
| | 8) Па вывучэньню прыроды Беларусі і яе вытворчых сіл | | |
| 24 | Старшыня | 1 | — |
| 25 | Навуковы сакратар | 1 | — |
| | 9) Па вывучэньню народнае гаспадаркі Беларусі | | |
| 26 | Старшыня | — | 1 |
| 27 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | 10) Па выдаваньню твораў *Леніна* і Марксіцкіх твораў. | | |
| 28 | Старшыня | — | 1 |
| 29 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | 11) Па вывучэньню Савецкага будаўніцтва. | | |
| 30 | Старшыня | — | 1 |
| 31 | Навуковы сакратар | 1 | — |
| | 12) Этнографічная. | | |
| 32 | Старшыня | 1 | — |
| 33 | Сэкратар | — | 1 |
| | 13) Бібліографічная. | | |
| 34 | Старшыня | — | 1 |
| 35 | Супрацоўцік-кнігавед | 1 | — |
| 36 | Сэкратар | — | 1 |
| | 14) Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. | | |
| 37 | Старшыня | — | 1 |
| 38 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | **Д. Жыдоўскі аддзел.** | | |
| 39 | Загадчык аддзелу | 1 | — |
| | а) Сэкцыі. | | |
| | 1) Жыдоўскае мовы і літаратуры. | | |
| | 2) Жыдоўскае гісторыі. | | |
| 40 | Старшыняў | 2 | — |
| 41 | Сэкратароў | 2 | — |
| | б) Пастаянныя камісіі: | | |
| | 1) Па вывучэньню жыдоўскае мовы. | | |
| 42 | Старшыня | — | 1 |
| 43 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | 2) Па вывучэньню жыдоўскае літаратуры. | | |
| 44 | Старшыня | — | 1 |
| 45 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | Па вывучэньню жыдоўскае гісторыі. | | |
| 46 | Старшыня | — | 1 |
| 47 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | **Е. Польскі аддзел.** | | |
| 48 | Загадчык аддзелу | 1 | — |
| | а) Сэкцыі. | | |
| | 1) Польскае мовы і літаратуры. | | |
| | 2) Польскае гісторыі. | | |
| 49 | Старшыняў | 2 | — |
| 50 | Сэкратароў | 2 | — |
| | б) Пастаянныя камісіі: | | |
| | 1) Па вывучэньню польскае мовы і літаратуры | | |
| 51 | Старшыня | — | 1 |
| 52 | Навуковы сэкратар | 1 | — |
| | 2) Па вывучэньню польскае гісторыі. | | |
| 53 | Старшыня | — | 1 |
| 54 | Навуковы сэкратар | 1 | — |

| № | Назовы пасадаў. | Прызначана па садаў. | |
|---|---|---|---|
| | | Штатных. | Пазаштатн. |
| | ж) Бібліатэка. | | |
| 55 | Загадчык бібліатэкі . | 1 | — |
| 56 | Бібліатэкар-супрацоўнік. | 1 | — |
| | з) Выдавецтва. | | |
| 57 | Сэкратар выданьняў Інбелкультy . . . | 1 | — |
| | і) Тэхнічны пэрсонал. | | |
| 58 | Дзелавод-рахункавод . | 1 | — |
| 59 | Дзелаводаў . . . | 2 | — |
| 60 | Машыністка . . . | 1 | — |
| 61 | Прыбіральшчык-кур'ер . | 1 | — |
| 62 | Прыбіральшчыца . . | 1 | — |
| 63 | Швайцар . . . . | 1 | — |
| 64 | Дворнік . . . . . | 1 | — |
| | Разам. . | 72 | 19 |

*Увагі;* 1. Праца членаў Інбелькультy па штатных пасадах аплачваецца са сродкаў, якія асыгнуюцца Інбелкультy па Дзяржаўнаму каштарысу.

2. У лік трох членаў Прэзыдыуму абавязкова ўваходзяць Загадчыкі Жыдоўскага і Польскага аддзелаў.

3. Камісіі ды сэкцыі складаюцца ў патрэбным ліку членаў у адпаведнасьці з характарамі; абыймом працы.

4. Штатныя пасады ў сэкцыях аплачваюцца патолькі, пакольki на іх прызнаюцца члены Інбелкультy, якія не займаюць штатных пасадаў у камісіях ці ў Прэзыдыуме Інбелкультy.

5. Штатныя пасады па Асоцыяцыі „Навуковае Арганізацыі працы" (НОТ) утрымліваюцца на кошт самае арганізацыі.

6. З двух штатных дзелаводаў адзін прызначаецца на працу ў Жыдоўскі,а другі—у Польскі аддзелы.

## 2. Аб зацьвярджэньні складу Прэзыдыуму Інстытуту Беларускае Культуры і членаў—супрацаўнікоў, абраных на першым агульным сходзе Інбелкультy 31 студзеня 1925 г.

*(5-га лютага 1925 г.)*

Паводле § § 19, 25 і 34 Палажэньня аб Інстытуце Беларускае Культуры Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць Прэзыдыум Інбелкультy, абраны на першым агульным сходзе 31 студзеня 1925 году ў складзе запраўдных членаў Інбелкультy: старшыні Ўсевалода **Ігнатоўскага**, ягонага намесьніка Аркадзя **Смоліча**, членаў: Зьмітры **Жылуновіча**, загадчыка жыдоўскага Аддзелу Інбелкультy Бэра **Аршанскага**, загадчыка польскага Аддзелу Сьцяпана **Гэльтмана** і навуковага сакратара Язэпа **Дылы**.

II. Зацьвердзіць на трохгадовы тэрмін членамі Інбелкультy абраных на тым-жа самым агульным сходзе як членаў супрацаўнікоў:

1) **Байкова** Міколу, 2) **Гарбуза** Паўла, 3) **Даўгялу** Зьмітру, 4) **Кісьлякова** Івана, 5) **Красінскага** Міколу, 6) **Круталевіча** Аляксандра, 7) **Парэчыка** Рыгора, 8) **Рагавога** Паўла, 9) **Родзевіча** Часлава, 10) **Сераду** Івана, 11) **Слоніма** Самуіла, 12) **Сербава** Ісака, 13) **Чаржынскага** Уладыслава, 14) **Шчакаціхіна** Міколу, 15) **Клыса** Яна, 16) **Вансоўскага** Браніслава, 17) **Валабрынскага** Арона, 18) **Фінкеля** Юрыя, 19) **Лур'е** Саламона і 20) **Аляксандрава** Гіленя.

## 3. Аб наданьні Менскаму беларускаму Пэдагагічнаму Тэхнікуму імя Народнага Камісара Асьветы БССР. Усевалада Ігнатоўскага.

*(7 лютага 1925 г.)*

Паводле аднагалоснае пастановы Менскага Гарадзкога Савету работніцкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, прынятай на ўрачыстым сходзе Савету 31 сьнежня 1924 г. з прычыны шостых угодкаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і дваццацёхгадовага юбілею рэвалюцыйна-культурнае дзейнасьці Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага, Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

I) Надаць Менскаму Беларускаму Пэдагагічнаму Тэхнікуму імя юбіляра, пазываючы памянёны тэхнікум ува ўсіх выпадках: „Менскі Беларускі, імя Ўсевалада Ігнатоўскага, Пэдагагічны Тэхнікум".

II) Прасіць Народны Камісарыят Юстыцыі аб агалашэньні гэтае пастановы ў зборы законаў ды загадаў Раб. Сел. Ураду Б.С.С.Р.

# Наказ Савету Народных Камісараў БССР

**па ўжываньню пастановы ЦВК, СНК Саюзу ССР ад 8 жніввеня 1924 г., аб ліквідацыі няпісьменнасьці даprызыўнікаў і чырвонаармейцаў пераменнага складу тэрыторыяльных часьцін.**

*30/31 студзеня 1925 г. (пратак. № 58, ст. 698).*

1. Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў пераменнага складу тэрыторыяльных часьцін праводзіцца пазавайсковым парадкам у час паміж зборамі ў тэрміны, якія вызначае Упаўнаважаны Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу ССР на Беларусі, па згодзе з Народным Камісарыятам Асьветы БССР.

Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дапрызыўнікаў і пераменьнікаў праводзіцца ў абавязковым парадку.

2. Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў пераменнага складу тэрыторыяльных часьцін праводзіцца на роднай мове.

Дзеля гэтага апроч пунктаў на беларускай мове ў мясцох з пераважным насельніцтвам іншай не беларускай нацыянальнасьці адчыняюцца спэцыяльныя ліквідацыйныя пункты на мове дадзенае нацыянальнасьці (жыдоўскай, польскай).

*Увага:* Дзеля навучаньня на роднай мове паасобных дапрызыўнікаў і пераменьнікаў у мясцох, дзе адчыненьне спэцыяльных ліквідацыйных пунктаў ня мэтазгодна— ужываць мэтад асабістага прымацаваньня.

3. Навучаньне дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў тэрыторыяльных часьцін пісьму адбываецца ў палітасьветных установах Народнага Камісарыяту Асьветы (пункты па ліквідацыі няпісьменнасьці, школы і г. д.) як, у існуючых, так і ў спэцыяльна адчыняемых дзеля гэтага. Арганізацыйныя формы працы вызначаюцца Народным Камісарыятам Асьветы па згодзе з палітычнымі ўстановамі вайсковых часьцін. Мэтодычнае кіраўніцтва працай праводзіцца Народным Камісарыятам Асьветы.

4. Для кіраваньня ўсёй працай у маштабе БССР утвараецца сталая нарада са старшынёй Галоўпалітасьветы на чале з удзелам адказных прадстаўнікоў палітычных установў вайсковых часьцін, Палітычнага Аддзелу 2 дывізіі, ЦК КПБ, ЦК ЛКСМБ і Цэнтральнага Камітэту Саюзу працаўнікоў Асьветы.

5. Падобныя нарады ўтвараюцца ў акружным маштабе Акруговым інспэктарам Палітасьветы на чале з удзелам Загадчыкаў Палітычных Аддзелаў Дывізій у мясцох, дзе знаходзяцца тэрыторыяльныя дывізіі і з пераменным удзелам прадстаўнікоў Прэзыдыуму Акруговага Выканаўчага Камітэту, Акруговага Ваеннага Камісара.

У раёнах кіраваньне працай ускладаецца асабіста на загадчыка Райкультаддзелу.

6. Перад пачаткам буджэтнага году нарада пры Галоўпалітасьвеце складае цьвярды плян працы, вызначае лік падлягаючых навучаньню пісьму дапрызыўнікаў і пераменьнікаў.

Далей нарады ажыцьцяўляюць агульнае кіраваньне працай на Беларусі, а таксама надаюць кірунак працы Акруговым нарадам; Акруговыя нарады ў свой чарад кіруюць працай райкультаддзелаў.

7. У адпаведнасьці з арт. 21 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ад 8 жніўня 1924 г. аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў (Збор законаў 1924 г. № 4 арт. 52), у каштарыс Наркамасьветы ўносяцца:

а) выдаткі на выплату заробку настаўнікам і інш. асобам, запрошаным на заняткі з няпісьменнымі дапрызыўнікамі і пераменьнікамі;

б) выдаткі па школьнаму абсталяваньню і ўтрыманьню памяшканьняў, якія прызначаны для заняткаў (інвэнтар, апал, асьвятленьне, здабытак пісьмовых прылад і г. д.);

в) выдаткі, якія зьвязаны з падлікам няпісьменных і самай працай, (загатоўка справаздаўчых блянкаў, правядзеньне падліку і адсылка запоўненых блянкаў у вышэйшыя інстанцыі).

8. Выдаткі па выдаваньню навучальных дапамогаў, мэтадычных кіраўніцтваў па забесьпячэньню імі пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці і таксама прыцягнутых да заняткаў дапрызыўнікаў і чырвонаармейцу пераменнага складу тэрыторыяльных часьцін робяцца па каштарысу НКАБ, прычым навучальным дапамогі выдаюцца ў патрэбным ліку на мовах нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР.

9. Падлік няпісьменных дапрызыўнікаў і пераменьнікаў, а таксама і працы па ліквідацыі няпісьменнасьці робіць Раённы Выканаўчы Камітэт СРВК, які передае гэтыя весткі як цывільным так і вайскавымі установамі, паводле наказу РВС СССР.

---

# Загады Народнага Камісарыяту Асьветы.

*(За тэрмін з 11 по 20 лютага 1925 г.)*

### Па Кіраўніцтву спраў.

Старшыня Галоўнага Рэпэртуарнага Камітэту **Гурскі** Ільля дэлегуецца прадстаўнікам Народнага Камісарыяту Асьветы БССР у Цэнтральную Камісію па аддзяленьню царквы ад дзяржавы пры Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў БССР.

(№ 62, § 1. 16/II, 1925 г.)

---

Выдадзеныя працаўнікам НКАБ пасьведчаньні асобы зьмяніць на новыя (на беларускай мове), выдаючы іх па асобнаму сьпісу з такімі дадзенымі: 1) парадкавы №, 2) дата, прозьвішча і імя, 3) каму выдаецца пасьведчаньне, 4) пасада, 5) адзнак, на які тэрмін працягнута чыннасьць пасьведчаньня, 6) расьпіска ў атрыманьні, 7) увагі.

Пасьведчаньні выдаваць і чыннасьць іх працягваць на тэрмін да трох месяцаў.

(№ 63, § 1. 18/II, 1925 г.)

### Па Галоўсацвыху.

Інспэктар Аршанскае Акругі **Дзяшкевіч** Севасьцян прызначаецца Загадчыкам Школы Глуханемых з 16-га лютага 1925 г. з аслабаненьнем яго ад пасады Інспэктара.

(№ 62, § 2. 16/II 1925 г.)

### Па Галоўпрафасьветы.

Скасаваць пастанову Камісіі па платнасьці Горацкага Сел.-Гаспад. Інстытуту ад 1 лютага 1925 г. (Прат. № 2), аб аслабаненьні ад платы дзяцей, бацькі якіх зьяўляюцца прафэсарамі і выкладчыкамі памянёнага Інстытуту, дзеля таго, што пытаньне аб аслабаненьні ад платы дзяцей членаў Саюзу Працаўнікоў Асьветы абгаварылася ў свой час на пасяджэньні СНКБ і было адхілена.

(№ 62, § 3. 16/II, 1925 г.)

### Па Галоўпалітасьветы.

З 1-га сакавіка 1925 г. зацьвярджаюцца вось якія стаўкі за карыстаньне музычнымі інструмэнтамі Народнага Комісарыяту Асьветы БССР.

1. Для клюбаў і інш. арганізацый, якія маюць выключна культурнасьветныя мэты . . . . 3 р. 50 к.

2. Для працаўнікоў НКАБ 3 „ 50 „

3. Для сяброў Саюзаў Працаўнікоў Мастацтва і Працаўнікоў Асьветы . . . . . . . . 6 р. 50 к.

4. Для сяброў іншых прафсаюзаў . . . . . . . . 8 р. 50 к.

5. Для ўсялякіх арганізацый, якія маюць на мэце камэрцыйную карысьць . . . . . . . . 15 р. —

6. За ўсялякія выдачы інструмэнтаў плата па згодзе, але ня менш . . . . . . . . . 15 р. —

Тэрмін платы за карыстаньне інструмэнтамі вызначаецца на 1-ую дату кожнага наступнага м-ца для ўсіх асоб ды організацый за выключэньнем працаўнікоў НКАБ, якія ўплачваюць за пракат у час атрыманьня заробку.

За несваячасны ўзнос платы вызначаецца штраф у разьмеры 1% за кожны прапушчаны дзень з усяе сумы, якая належыць.

(№ 55, § 1. 12/II, 1925 г.)

---

I. Старшыня Галоўпалітасьветы **Лысаў** Сяргэй аслабаняецца ад займаемай пасады з 15-га лютага 1925 г., згодна заявы.

II. Часовае спаўненьне абавязкаў Старшыні Галоўпалітасьветы ўскладаецца на Галоўнага Інспэктара клюбаў, хат-чытальняў, нардомаў і бібліатэк, **Даўгаполава** Хведара з 15-га лютага 1925 г.

(№ 63, §§ 5-6. 18/II, 1925 г.)

### Па Інбелкульту.

З прычыны адбыўшайся рэорганізацыі Інбелкульту паводле § 19 з увагай палажэньня аб ім, спыніць з 15-га лютага 1925 г. прызначэньне і звальненьне па загадах НКАБ тэхнічнага складу Інбелкульту.

Навуковы Сэкратар Інбелкульту мае паклапаціцца, каб увесь тэхнічны склад як новы, так і прызначаны ўжо загадамі НКАБ, быў зафіксаваны ў пастановах Старшыні Інбелкульту (увага да § 19 Палажэньня) і, разам з тым, каб нанова абраныя Члены Інбелкульту няўхільна прадстаўляліся на зацьвярджэньне НКАБ (§ 19 Палажэньня).

(№ 62, § 4. 16/II 1925 г.)

### Па Жыдоўскаму Бюро.

I. Загадчык Жыдоўскага Бюро **Мышкоўскі** Леў аслабаняецца ад займаемай пасады з прычыны камандыраваньня яго на іншую працу з 10-га лютага 1925 г.

II. **Мац** Давід прызначаецца Загадчыкам Жыдоўскага Бюро з 10-га лютага 1925 году.

(№ 61, §§ 3—4. 14/II, 1925 г.)

---

# Абежнікі НКАБ.

## Па Грашова-Гаспадарчаму Аддзелу.

### Аб ужываньні спэцыяльных сродкаў па Школах Сацвыху ў межах раёнаў, па якіх яны ўступілі.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*
*(№ 3. 27/II, 1925 г.)*

Заўважана, што спэцыяльныя сродкі па школах Сацвыху, якія ўступаюць паводле Наказу НКАБ і НКЗБ ад 14 лютага 1924 г., досыць часта ўжываюцца Акр. АНА ня толькі не на тыя школы, па якіх яны ўступілі, а нават і не на тыя раёны, дзе знаходзяцца такія школы.

Лічачы такое перакіданьне сродкаў не мэтазгодным, паколькі яны складаюцца грамадзянствам пэўнага раёну, НКАБ прапануе пры ўжываньні спэцыяльных сродкаў па Сацвыху няўхільна прытрымлівацца такога парадку, каб памянёныя сродкі ўжываліся ў межах таго раёну, дзе знаходзяцца школы, па якіх яны ўступілі.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі.*
Загадчык Грашова-Гаспадарчага Аддзелу *М. Эвенчык.*
Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

## Па Галоўсацвыху

*Усім Акруговым Л. К. С. М. Бюро Юных Піанэраў, Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*
*(№ 8820. 15—XI, 1924 г.)*

### Піанэрскі рух і школа.

1) Эпоха, якая зараз перажываецца намі вострай масавай барацьбы, уцягвае ў новыя жыцьцё-

вые працэсы ня толькі шырокія слаі дарослых рабочых і моладзь, але й робіць уплыў на дзіцячыя масы. Вынікае працэс уцягваньня іх ва ўсе рэвалюцыйныя здарэньні, які пад кіраўнічым удзеле арганізацыі рабочае клясы й рабочае моладзі выбухае ў імкненьне садзейнічаць у барацьбе й будаўніцтве новага грамадзянства.

2) Усе азначаныя прычыны ўсклалі на Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі задачы выкарыстаць нарастаючае імкненьне дзяцей да самаарганізаванага масавага піанэрскага руху пад сваім кіраўніцтвам і ўплывам.

3) Піанэрскі рух ня можа быць замкнутым у межах існуючых дзіцячых установ, а павінен быць цалкам зьвязаны з жыцьцём і працай грамадзкіх арганізацый пры фабрыках і заводах, рабочых і камсамольскіх клюбах.

4) Разам з гэтым, школа, якая абхапляе значныя масы дзяцей, маючая мэты камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня, не павінна заставацца бяз уплыву дзіцячага камуністычнага руху.

5) Свае заданьні піанэрскі рух у школе выконвае цераз актыўны й арганізаваны удзел у школьным жыцьці ўсіх піанэраў школьнікаў. Работа Юных Піанэраў у школе павінна адзіграць вялікую ролю ў справе паступовай рэарганізацыі школы Сацвыху й прыбліжэньня яе да ідэалу супраўднай працоўнай камуністычнай школы.

6 Заданьнем піанэраў у школе з'яўляецца:

а) унясеньне ў жыцьцё школы новай рэвалюцыйнай струменьні, элемэнтаў грамадзка-палітычнай работы;

б) устанаўленьне сувязі ўсіх дзяцей, якія навучаюцца ў школе, з жыцьцём ЛКСМ, партыяй, рабочаю клясаю й прыцягненьне школьнікаў да ўдзелу ва ўсім грамадзка-палітычным жыцьці;

в) узмацненьне культурна-асьветнай работы ў школе і ўвязка школьнай работы з работаю піанэрскіх атрадаў;

г) арганізацыя ўнутры школьнага жыцьця на аснове шырокага самакіраваньня дзяцей, пад кіраўніцтвам больш арганізаванага й грамадзка-актыўнага ядра Юных Піанэраў;

д) дапамога настаўніцтву й органам народнае асьветы ў будаўніцтве новае школы.

**Арганізацыйныя ўзоры.**

7) Работа піанэраў у школе павінна вызначыцца ў ніжэйнаступныя арганізацыйныя ўзоры:

а) піанэры вучні даннае школы (ня меней трох асоб) аб'яднаюцца ў адзін школьны калектыў-форпост;

б) форпост новых піанэраў ня прымае, мэханічна залічае ўсіх вучняў даннай школы, уступіўшых у той ці іншы атрад, і выключае з свайго складу, піанэраў якія выбылі, або выключаны з арганізацыі;

в) члены і кандыдаты ЛКСМ уваходзяць у склад форпоста, прычым неабходна забясьпечыць ім там тую ці іншую кіраўнічую ролю. Там, дзе існуюць камсамольскія фракцыі, яны кіруюць работаю форпосту, але ўсё ж такі ня робячы ніякага даўленьня на самадзейнасьць піанэраў, перадаўшы ім усю ўнутраную работу ў школе;

г) для кіраўніцтва работаю форпосту абіраецца савет форпосту, які складаецца з упаўнаважаных ад піанэраў і кожнае групы й кіраўніка выдзеленага адпаведным Бюро Юных Піанэраў. Кіраўнік форпосту ўводзіцца разам з гэтым у школьны савет і вучнёўскі камітэт з правам рашучага голасу;

д) савет форпосту арганізуе ўсю піанэрскую работу ў школе, знаджаючы яе з школьным саветам і вучкомам, праводзячы яе цераз ўпаўнаважаных груп і асобных піонэраў.

д) Савет форпосту вызначае з свайго складу сэкратара, які вядзе ўсе справы форпосту. Для вядзеньня чарговых пасяджэньняў савету кожны раз абіраецца старшыня;

ж) для абгаварэньня важнейшых пытаньняў работы форпосту й

школьнала жыцьця, для заслуха-ваньня справаздач і зацьверджаньня плянаў работу савету, для заслухаваньня інфармацыі аб дзейнасьці школьнага самакіраваньня, па меры патрэбы, Савет форпосту склікае агульны сход форпосту;

з) пытаньні датычныя толькі асобнае клясы разглядаюцца на сходзе піанэраў гэтае клясы, які склікаецца ўпаўнаважным;

і) форпост клапаціцца ўцягнуць да ўдзелу ў сваёй рабоце настаўнікаў, якія аднак у форпосьце прадстаўнікамі школьнага савету не зьяўляюцца.

### Арганізацыя работы форпосту.

8) Работа піанэраў у школе можа быць прадуктыўнаю ў тым выпадку, калі яна будзе весьціся арганізавана, калі піанэры ва ўсіх сваіх выступленьнях будуць спаяны, настойна абараняць і праводзіць дэрэктывы форпосту і калі кожны піанэр у сваёй працы будзе находзіць дапамогу й падтрыманьне ва ўсім піанерскім калектыве школы.

9) Для дасягненьня гэтага неабходна:

а) папярэдняе абгаварэньне ўсіх больш, ці менш важных пытаньняў работы форпосту й асобных членаў яго на агульных сходах, ці на пасяджэньнях саветаў форпосту;

б) выпрацоўка ў піанэраў сьвядомасьці, неабходнасьці падляганьня пастановам форпосту й яго саветам і неабходнасьці прыстасаваньня сваёй дзейнасьці да агульнай лініі форпосту;

в) пастаноўка на сходах форпосту й пасяджэньнях савету яго, дакладаў піанэраў, якія працуюць у розных школьных ворганах, для абгаварэньня аб зробленай і намечанай лініі дальнейшай іх работы;

г) парады піанэраў, якія працуюць у вадным школьным органе (школьком, камісія, клюб і інш.), для папярэдняга абгаварэньня пытаньняў работы данага органу й распрацоўкі агульнага зданьня.

### Работа піанэраў у школе.

10) Самакіраваньне:

а) піанэры ў школе павінны праводзіць работу па ўцягненьню дзяцей ў грамадзка-калектыўнае жыцьцё й будаўніцтва новай школы, выхаваньня ў іх самадзейнасьці і актыўнасьці, біручы на сабе ініцыятыву арганізацыі й кіраўніцтва самакіраваньнем у школе, склікаючаньне правядзеньне школьных і клясных сходаў, актыўна прымаючы ўдзел ва ўсіх органах самакіраваньня;

б) форпост павінен аддаць шмат увагі на падбор працаздольнага складу школьных органаў, абгаварваючы папярэдне кандыдатуру членаў гэтых органаў;

в) прымаючы ўсе хлапоты, каб забясьпечыць ва ўсіх органах самакіраваньня моцны піанэрскі ўплыў, форпост павінен прымаць меры да ўцягненьня ў актыўную работу школы ў яго масу школьнікаў.

11. Грамадзка-палітычная работа:

а) форпост павінен узяць на сябе ініцыятыву стварэньня цераз самакіраваньне школьнага клюбу, правядзеньня гутарак, арганізацыю чытальні, бібліатэкі, гурткоў, выданьне насьценнай газэты, часопісу, стварэньне вечароў, гульняў, заняткі па фізкультуры і г. д.;

б) форпост праводзіць у школе барацьбу з курэньнем, лаянкаю брыткімі словамі, устанаўляе сяброўскія адносіны паміж дзяцей, дапамагае устанаўленьню нармальных адносін паміж хлопчыкаў і дзяўчатак, паміж школьнікаў розных нацыянальнасьцяй;

в) форпост праводзіць у школе работу па масаваму кааператаваньню школьнікаў, уцягвае іх у члены дзіцячай коопэрацыі, прымае актыўны удзел у рабоце асобнага дзіцячага коопэратыву ў школе.

г) форпост устанаўляе сувязь школы з камсамолам, піанэрскімі атрадамі, прафшколай прыбліжае школьнікаў да заводу, уцягвае іх у тарарыства „Друзья Дзяцей“, „МОПР“, Дабрахім, і інш. грамадзкія арганізацыі;

д) форпост прібліжае школьнікаў да грамадзкага жыцьця свайго раёну і ўсяго С. С. С. Р., уцягуючы іх да ўдзелу ў агульных дэмонстрацыях, і рэвалюцыйных выступленьнях, праводзячы ў школе ўсе грамадзкія й палітычныя кампаніі, арганізуючы удзел школьнікаў у рэвалюцыйных і г. д.;

е) форпост дапамагае школьнаму савету нарыхтаваць вучэбнае жыцьцё школы й нармальныя адносіны паміж вучнямі й настаўніцтвам;

ж) ва ўсёй сваёй рабоце, піанэрскі форпост імкнецца прапагандаваць піанэрскі рух і павялічыць сымпатыі дзяцей да яго. Форпост стварае ў школе піанэрскі куток, дзе высьвятляе работу піанэрскіх арганізацый, папаўняе школьную бібліатэку піанэрскай літаратурай, прыцягвае школьнікаў для прыняцьця ўдзелу ў піанэрскай рабоце.

**Узгаджэньне й кіраўніцтва работай.**

12) Увесь плян работы форпосту ў школе павінен быць узгоджаны з агульным плянам усяго школьнага жыцьця, які ў сваю чаргу падрахоўвае работу форпосту.

13) З боку ворганаў Сацвыху загадчыкаў школаў і пэдагогаў павінны быць выяўлены самыя ўважныя адносіны ў дапамозе ў рабоце піанэраў шляхам уцягненьня форпостаў да удзелу ў мэтодычнай рабоце некалькіх саветаў, абгаварэньня вучэбных плянаў школы на вызначаны перыяд, а таксама шляхам супольнай арганізованай клюбнай і грамадзка-палітычнай работы, супольнай распрацоўкі праграм гурткоў, вечароў, экскурсіі і г. д.

14) Сваю работу форпост праводзіць цераз учком і іншыя школьныя арганізацыі, кіруючы імі цераз піанэраў-членаў гэтых арганізацый, або цераз сваіх прадстаўнікоў.

15) Усе вынікаючыя канфлікты й непаразуменьні павінны быць бясшкодна для школы й піанэр. арганізацыі вырашаны мясцовымі і бюро Юных піанэраў супольна з школьнаю адміністрацыяй, а пры неабходнасьці і з інспэктароў Сацвыху.

16) Кіраўніцтва ўсею піанэрскаю работаю ў сямёхгадовых школах, у школах прымітыўвах у гарадох і мястэчках праводзіцца адпаведнымі бюро юных піанэраў цераз кіраўнікоў форпосту, узгоджана з аддзеламі Камітэтаў ЛКСМБ і адпаведнымі грамадзкімі й дзяржаўнымі ворганамі.

17) Неабходна ўстанаўленьне самай цеснай сувязі Бюро Юных піанэраў з ворганамі Соцвыху й прафсаюзам Працасьветы, цераз уключэньне прадстаўнікоў іх у склад бюро юных піанэраў і ўцягненьне працаўнікоў бюро ў курс дзейнасьці Сацвыху й саюзу Працасьветы.

18) Па меры неабходнасьці, Бюро Юных піанэраў склікае парады саветаў форпостаў, кіраўнікоў форпостаў і предстаўнікоў зацікаўленых ворганаў, для абгаварэньня далейшай работы піанэраў і школе.

Нам. Наркамасьветы *Валасевіч*

Загад. Галоўсоцвыху *Каранеўскі.*

## Па Галоўліту.

**Аб абавязковым падпісаньні абвестак (афішаў) адказнымі распарадчыкамі спэктакляў, канцэртаў, і іншых паказаў.**

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*
*(№ 2, 27/II, 1925 г.)*

Дзеля ўпарадкаваньня справы выдаваньня дазволу на арганізацыю розных спэктакляў, канцэртаў, лекцый, вечарын і іншых паказаў прапануецца няўхільна паглядаць за тым, каб абвесткі (афішы) мелі подпіс адказнага распарадчыка, без якога подпісу катэгарычна адмаўляць у выдаваньні дазволу на друкаваньне абвестак і на самыя паказы.

За Народнага Камісара
Асьветы *Каранеўскі.*

Загад. Галоўнага Ўпраўленьня
па справах літаратуры і выдавецтва *Арэшнікаў.*

Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

## Па Навукова-Мэтодолёгічнаму Камітэту.

### Аб бліжэйшых заданьнях Акруговых Мэтодолёгічных Бюро.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы. Тэрмінова*

*(№ 4—27/II 1925 г.)*

У бягучым школьным годзе Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт мае цэлы ряд адказных заданьняў. Трэба апрацаваць комплексную праграму на 3 і 4 год навучаньня (а па магчымасьці пераглядзіць праграмы на 1 і 2 год), апрацаваць праграмы на 5-7 год, выявіць, у якіх межах і варунках магчыма ўвесьці на Беларусі Дальтон-плян, падыйсьці да практычнага правядзеньня ў школах і дзіцячых установах краязнаўчага і вытворчага пахілу, ды рад пытаньняў ў галіне дашкольнага выхаваньня, па перападрыхтоўцы настаўніцтва і г. д.

Звычайна пры вырашэньні такіх заданьняў Камітэт грунтаваўся на матар'яле, які прысылалі з мясцоў, але ў большасьці выпадкаў матар'ял гэты меў выпадковы, ня скончаны характар, чаму ўжо ў часе самае апрацоўкі трэба было яго дапаўняць, склікаючы дзеля гэтага канфэрэнцыю Менскіх настаўнікаў.

Між тым Камітэт ёсьць перш за ўсё такой інстытуцыяй, якая працуе ў цеснай сувязі з мэтодычнымі бюро пры Акр. АНА. Вось чаму неабходна ўжо з бягучага школьнага году наладзіць і паглыбіць гэтую сувязь тым спосабам, што мэтодычныя бюро павінны сваячасна выслаць пратаколы сваіх пасяджэньняў і апрацованыя матар'ялы, бо калі матар'ял высылаецца не на часе, дык ён губіць свой сэнс, маючы значэньне толькі архіўнага дакуманту. Разам з тым асабліва важна атрымаць ад мэтодычных бюро да 15 красавіка вось якія матар'ялы, у тым парадку паступовасьці, як яны будуць апрацоўвацца.

1. Праекты камплекснае праграмы на 3 і 4 год навучаньня з увагамі аб патрэбных зьменах у праграмах на 1 і 2 год.

2. Праграмы на 5-7 год навучаньня. Паколькі захавалася прадметная сыстэма, трэба зьвярнуць асабліваю ўвагу на праграмы па грамадзяназнаўству, матэматыцы і прыродазнаўству. Неабходна выслаць у НКАБ скончаныя праекты праграм, лічучыся перш за ўсё з навочнымі варункамі практычнага ўжываньня іх у школах.

3. Праграму нулявое групы (як групы дашкольнай).

4. Пытаньне аб перападрыхтоўцы настаўніцтва: тут трэба абгаварыць пытаньне аб курсах па перападрыхтоўцы ў наступны летні адпачынак, як акруговых, так і цэнтральных; праграмы курсаў, іх тэрмін, мэтады працы. Ці адчуваецца патрэба ў навуковых дапамогах па самаперападрыхтоўцы настаўнікаў у гурткох, якія яны самі арганізавалі, і ў якіх; ці ня думаюць мэтодычныя бюро зьвязаць курсы па перападрыхтоўцы з працай настаўніцкіх гурткоў.

5. Дальтон-плян: распрацаваць яго ў межах, магчымых дзеля практычнага правядзеньня ў школах вашае акругі.

6. Спосабы магчымага пашырэньня на мясцох краязнаўчае працы— школьнай і пазашкольнай.

7. Спосабы ўвязкі школьнае працы з вытворчасьцю—у галіне прамысловасьці як сялянска-гаспадарчай, так і апрацоўчай.

8. Магчымыя заданьні і дасягненьні ў галіне выкладаньня замежных моў.

9. Мэтоды нармальнае пастаноўкі выкладаньня фізкультуры ў навочных варунках школы на Беларусі.

10. Пастаноўка эстэтычнага выхаваньня (азбражальнае мастацтва, музыка, пяяньне).

11. Спосабы падліку школьнае працы (пасьпехі вучняў).

12. Дзіцячы дом, дом піанэраў, піанэр-камуна: ці пажадана і магчыма разьвіцьцё першага тыпу ў другі і трэці. Дзіцячы дом і дзіцячы гарадок: пытаньне аб працягласьці аднаго і другога тыпу.

Паведамляючы аб вышэйпісаным, Мэтодолёгічны Камітэт прапануе

мэтодычным бюро зараз-жа распачаць апрацоўку пералічаных пытаньняў, каб сваячасна выслаць Камітэту патрэбны матар'ял.

Да працы трэба прыцягнуць ўсе грамадзкія сілы, якія здалеюць дапамагчы Акр. АНА сваімі дарадамі і практыкай, каб як найшырэй і паўней выявіць пасьпеўшыя патрэбы акругі.

За Народнага Камісара Асьветы БССР *Каранеўскі*.

За старшыню Нав.-Мэтодолёгічнага Камітэту *Жарынаў*.

Кіраўнік Спраў *М. Красінскі*.

---

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### Другое Нарады Загадчыкаў Аддзелаў Народнае Асьветы БССР. 2-5 студзеня 1925 году.

Другая Нарада Загадчыкаў Аддзелаў Народнае Асьветы БССР, заслухаўшы даклад Намесьніка НКАБ т. Баліцкага, а таксама справаздаўчыя даклады Загадчыкаў Менскага, Калінінскага і Полацкага Акр. АНА, і констатуючы:

1) значную працу, якую зрабілі НКАБ і Акр. АНА ў галіне ўвядзеньня аднастойнасьці ў сыстэму Народнае Асьветы па ўсёй БССР;

2) плянавае і правільнае правядзеньне асноў нацыянальнае палітыкі ў адпаведнасьці з пастановай другое сэсіі ЦВК БССР шостага скліку, ад 15 ліпеня 1924 г., аб практычных мерапрыемствах па правядзеньню нацыянальнае палітыкі, („Асьвета" № 2; Збор законаў ды загадаў Раб. Сельск. Ураду БССР № 11—1924 г., ст. 108);

3) узрушэньне, якое пачалося ў бок зварачываньня большае ўвагі на мэтадычную працу;

4) значнае матар'яльнае паляпшэньне некаторых устаноў НКАБ;

5) урэшце тое, што заробак школьных працаўнікоў выраўніўся па ўсёй Беларусі,—

Нарада, аднак, адзначае, што палажэньне культурна-асьветных устаноў з гаспадарчага боку застаецца цяжкім дагэтуль: адсутнасьць рамонту, дрэнны стан і недахоп інвэнтару і навучальных дапамог; дзеля чаго Нарада стаўляе перад сабой заданьне прыняць усе крокі, каб з новага школьнага году былі дадзены неабходныя на гэта сродкі.

Маючы на ўвазе вышэйпісанае, Нарада лічыць патрэбным зрабіць у справе народнае асьветы вось што:

1) Прыймаючы існуючую цяпер сетку сацыяльнага выхаваньня за асноўную і ўсімі спосабамі ўзмацняючы яе, прыняць неабходныя меры да таго, каб канчальна распрацаваць і сыстэматычна зьдзейсьніць пятнаццацёх-гадовы плян усеагульнага навучаньня;

2) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне школаў сялянскае моладзі, якіх адчынена цяпер на спробу па аднэй у кожнай акрузе, матар'яльна падтрымаўшы іх, каб школы гэтыя мелі магчымасьць разьвінуцца.

3) Паставіць як чарговае заданьне ўзмацненьне апарату народнае асьветы і ўстаноў, дзеля чаго:

а) падняць пытаньне аб павялічэньні раскладу пасад ў кожным Акр. АНА на аднаго мэтадыста;

б) дамагацца ўвядзеньня ў расклад пасад спэцыяльных працаўнікоў па прафэсыянальнай асьвеце ў Менску, Віцябску і Магілёве;

в) зьвярнуць увагу на гэтыя зьмены ў складзе Загадчыкаў Палітасьветы і адсутнасьць, дзякуючы гэтаму, у паказанай галіне працы, сталага кіраўнічага апарату;

г) зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб на пасады Загадчыкаў райкультаддзелаў абіраліся са складу райён. Выканаўчых Камітэтаў (РВК) такія працаўнікі, якія-б былі знаёмы з культурна-асьветнай працай і здольны праводзіць палітыку Акр. АНА;

д) лічучы, што загадчыкі шматкамплектных культурна-асьветных устаноў ё с ь ц ь адначасна прадстаўнікамі Акр. АНА у памянёных установах, выяўляць асаблівую ўвагу пры даборы працаўнікоў на паказаныя пасады.

4) Дзеля асярадкаваньня практыкі мэтадычнае працы ў справе правядзеньня камплекснага мэтаду ствараць школы—апорныя пункты, упаўнавачваючы іх лепшымі працаўнікамі

і зварачваючы на іх найвялікшую ўвагу.

5) Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы (Акр. АНА) ўзяць на сябе працу па перападрыхтоўцы і па самаперападрыхтоўцы працаўнікоў асьветы, прычым Акр. АНА павінны праводзіць гэтую працу ў згодзе з Саюзам Працаўнікоў Асьветы і аддаючы на гэтую працу як мага больш увагі.

6) Апрацаваныя НКАБ навучальныя пляны і праграмы даручыць працаўнікам асьветы абгаварыць на мясцох самым старанным спосабам, і ўсе матар'ялы пераслаць у Нав.-Мэтадалёгічны Камітэт на сумаваньне і абагульненьне.

7) Адзначаючы, што ў бягучым школьным годзе матар'яльнае палажэньне устаноў работніцкае асьветы значна ўмацавалась, што дае магчымасьць нарыхтаваць у гэтых установах правільную арганізацыйную і мэтадычную працу, прызнаць мэтазгодным:

а) правесьці працу па павялічэньню гаспадарчае каштоўнасьці школ, пабудаваўшы правільную сыстэму дзяржаўных і прыватных заказаў;

б) зьвярнуць увагу на ўвязку вытворчае і школьнае працы;

в) зьвярнуць увагу на дабор складу інструктароў і на сыстэматычную працу па іх перападрыхтоўцы як культурнай, так і вытворчай;

г) зьвярнуць увагу на дабор сталага складу працаўнікоў;

д) у часе прыёма вучняў няўхільна кіравацца на правілы, якія даюцца Н К А Б.

8.Акр.АНА выкарастаць дасьледча-паказальныя школы на распрацоўку мэтадычных пытаньняў, якія датыкаюцца ўсяе акругі, а дзеля гэтага:

а) выкарастаць настаўнікаў пэдагагічных тэхнікумаў і дасьледча-паказальных школ пры памянёных тэхнікумах на пэдагагічную працу сярод працаўнікоў асьветы;

б) асяродкамі ўсяе пэдагагічнае працы зрабіць пэдагагічныя тэхнікумы.

9. Зьвярнуць увагу НКАБ на неабходнасьць больш цеснае сувязі між паасобнымі тыпамі школьных устаноў.

10. Аддаць больш увагі на пастаноўку працы па ліквідацыі няпісьменнасьці і на працу Таварыства „Далоў няпісьменнасьць“ (ОДН), прычым праца памянёнага Таварыства павінна йсьці пад кіраўніцтвам і беспасрэдняй адказнасьці Загадчыкаў Акр. АНА.

11. Лічыць неабходным надаць часопісі „Асьвета“ больш масавы характар, дзеля чаго:

а) Акр. Ана вызначыць пэдагагічных дапішчыкаў („пэдкораў“) ня менш, як па аднаму на раён;

б) рэдакцыі зьвязацца з дамамі працаўнікоў асьветы, апорнымі пунктамі і пэдагагічнымі тэхнікумамі.

в) маючы на мэце пашырэньне часопісі „Асьвета“, паставіць пытаньне аб ёй на масавых сходах, канфэрэнцыях і г. д.

12. Прасіць НКАБ паставіць перад адпаведнымі ўстановамі пытаньне аб стварэньні сталага і кваліфікованага складу загадчыкаў хатаў-чытальняў, пераглядзіць цяперашні і апрацаваць новы вясковы рэпэртуар, а таксама даручыць Белгоскіно пакляпаціца аб больш танных кіно-фільмах на вёскі.

13. Маючы на ўвазе, што інспэктары зьяўляюцца адказнымі працоўнікамі па народнай асьвеце, увесь час заняты гэтай працай, дзякуючы чаму ня маюць магчымасьці працаваць па сумяшчэньню, пастановіць пытаньне перад Акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі аб неабходнасьці вызначыць зарабок інспэктарам ня ніжэй 75 р.

14. Працягнуць і паглыбіць працу па практычнаму зьдзяйсьненьню нацыянальнае палітыкі па ўстановах народнае асьветы на аснове памянёнае вышэй пастановы Ц. В. К. Б. С. С. Р., уцягваючы ў гэтую працу настаўніцтва і павялічыўшы тэмы яе сярод працаўнікоў палітасьветы ў мясцовасьцях са значным лікам нацыянальных меншасьцяў.

На арыгінале напісана:

„Зацьвярджаецца. Распачаць хадайніцтва перад СНКБ аб павялічэньні раскладу пасад па Акр. АНА ў адпаведнасьці з гэтай рэзалюцыяй.

19/1—1925 году, БАЛІЦКІ“.

# Хроніка.

— ЦВК БССР разгледзіўшы хадаўніцтва грамадз. Андруховіча аб прызначэньні за ім права карыстацца сваім будынкам, занятым пад школу, здаволіў гэтае хадайніцтва; школа павінна надалей займаць будынак Андруховіча на аснове арэнды; адначасна ЦВК запрапанаваў Менскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту ўнесьці ў бліжэйшы плян школьнага будаўніцтва пабудаваньне школьнага будынку ў вёсцы Лісоўшчына, Вузьдзенскага раёну.

— ЦВК БССР пастанавіў зьліквідаваць цэнтральную камісію дапамогі дзецям і вызначыў ліквідацыйную камісію на чале з т. П. Валасевічам.

— СНКБ ухваліў загад[1]) НКАБ аб аб'яднаньні Менскага Інстытуту Сацыяльнага Перавыхаваньня і Магілёўскай калёніі маральна дэфэктыйных дзяцей ў Беларускі Інстытут сацыяльнага перавыхаваньня і аб вызначэньні яму месцам быцьця двара „Крынкі". Адначасна СНКБ зацьвердзіў каштарыс Інстытуту ў суме 43.290 руб. 26 к., загадаўшы перадаць інвэнтар памянёнае вышэй Магілёўскае калёніі Магілёўскаму Акр. АНА.

— СНКБ дазволіў НКАБ, па яго хадайніцтву, выдаць 800 рублёў (па 160 руб. што-месяц) на стыпэндыі 20 падлеткам, якія з прычыны тэрміновага аслабаненьня будынку пад Інбелкульт (Рэвалюцыйная № 21), былі пакіраваны ў Віцебск на прадпрыемствы і апынуліс там у вельмі цяжкіх матар'яльных варунках. Памянёныя грошы маюць быць выдадзены за кошт іншых стыпэндый, прадугледжаных па дзяржаўнаму каштарысу.

— НКФБ даводзіць да ведама НКАБ і падпарадкаваных яму устаноў, што Народны Камісарыят Пошты і Тэлеграфу СССР запрапанаваў усім сваім установам вымагаць пры прыёме пасылак з накладнай платай, каб падаўцы абавязкова адзначалі на адразных каранькох блянкаў адрасоў суму накладное платы, як гэта заўсёды робіцца на адцінках блянкаў грашовых пераводаў, а пры выдачы такіх пасылак паштовыя ўстановы павінны прыкладаць да адразных каранькоў паштовы штамп, як доказ таго, што накладная сума выплачана.

Дзеля гэтага НКФБ зазначыў, што на будучыню адразныя каранькі павінны абавязкова прыкладацца да грашовых справаздач як выпраўдальны дакумант, што накладная сума за пасылку выплачана.

— Цэнтральная Дасьледчая Сямёхгадовая Працоўная Школа (Менск, Савецкая вул., № 113) даводзіць да ведама настаўнікаў, што настаўнікі Менску могуць наведвацца ў школу па чацьвяргох, вясковае настаўніцтва прыймаецца штодня.

[1]) Загад № 183. Гл. „Абвесьнік" № 1, стар. 10.

## Да ведама акруговых АНА.

Кіраўніцтва Спраў выслала адбітак (па 30 экз). Пастановы СНКБ аб платнасьці і наказу да гэтае пастановы дзеля пашырэньня сярод школ Сацвыху. Іншым школьным установам, дзе бярэцца плата, памянёны адбітак высылаецца безпасярэдна.

Рэдактар—выдавец. Народны Камісарыят Асьветы Б.С.С.Р.

Галоўлітбел № 7928. 1-ая Дзярж. друк. Зак. № 2513—1000 экз.